




МIНIСТЭРСТВА НАРОДНАЙ АДУКАЦЫI БССР

БеларускI ордэна Працоунага Чырвонага Сцяга дзяржауны
Iнстытут народнай гаспадаркI Iмя В.В.Куйбышава

КароткI руска-беларускI тэрмIналагIчны слоўнIк

# С Т А Т Ы С Т Ы К А

МIНСК 1990

УДК 413/Бел./ : 31

Аутары: М.М.Нобікаў, І.Я.Цыслюк

Кароткі руска-беларускі тэрміналагічны слоунік. Статыстыка.

У слоуніку дадзены сціплыя тлумачэнні статыстычных тэрмінаў на беларускай мове.

Прызначан дзеля выкарыстання ў якасці даведчага дапаможніка ў навучальным працэсе.

Рэцэнзент дац., канд. экан. навук В.Н.Тамашэвіч.

Беларускі ордэна Працоунага Чырвонага Сцяга дзяржауны Інстытут народнай гаспадаркі Ім. В.В.Куйбышава, 1990



АБСОЛЮТНОЕ ЗНАЧЕНИЕ ОДНОГО ПРОЦЕНТА ПРИРОСТА, абсолютное значэнне аднаго працэнта прыроста – адносіна абсалютнага прыросту да тэмпа прыросту, выражанага у працэнтах. Працяжнасць А.з.а.п.п. равен 0,01 папярэдняга узроуню / ці другога узроуню, прынятага за базу параунання/.

АВТОКОРРЕЛЯЦИЯ, аутакарэляцыя – наяунасць сувязі унутры радоу. У асноуным адносіцца да сувязей у дынамічных радах, калі наступны член рада знаходзіцца у карэляцыйнай залежнасці ад рада папярэдніх членау.

АВТОРЕГРЕССИЯ, аутарэгрэсія – наяунасць рэгрэсіі унутры статыстычных радоу. У асноуным ужываецца ў вывучэнні рэгрэсіі дынамічных радоу, як уплыу папярэдніх узроуняу на наступныя.

АНАЛИЗ РЯДОВ ДИНАМИКИ, аналіз радоу дынамікі – дэталёвая апрацоука радоу дынамікі і вылічэнне розных паказчыкау дынамікі, выконваемых у сувязі з рашэннем наступных задач: 1/ высвятлення характару змянення лікау ад тэрміна к тэрміну; 2/ высвятлення параунальнай характарыстыкі адрозненню у дынаміцы розных з'яу; 3/ высвятлення колькаснага выражэння заканамернасцей змянення рада у цэлым; 4/ раскрыцце фактарау, абумоуліваючых уістанні лікау рада.

АНАЛИЗ СВЯЗИ ПРИЗНАКОВ, аналіз сувязі прыкмет – вывучэнне узаемнай сувязі з'яу і асобных іх прыкмет. А.с.п. выяуляе прыкметы-фактары, ад якіх залежыць велічыня вывучаемай прыкметы-функцыянальнай, ці прыкметы-выніка, вызначае характар і сілу іх уплыву.

АНАЛИЗ СТАТИСТИЧЕСКИЙ, аналіз статыстычны – вывучэнне статыстычных данных аб з'яве для высвятлення яго характэрных рыс і уласцівых яму у дадзеных канкрэтных умовах заканамернасцей. А.с. – завяршальнае звяно статыстычнага даследавання. Пры А.с. комплексна выкарыстоуваюцца разнастайныя статыстычныя данныя і розныя прыемы іх апрацоукі.

АНКЕТА, анкета – тэрмін, ужываемы у статыстыцы як адно з назвау фармуляра статыстычнага ці як скарочаная назва анкетнага метада.

АНКЕТНЫЙ МЕТОД, анкетны метад - збор статыстычных звестак з дапамогай спецыяльных пытальнікаў /анкет/, рассылаемых вызначанаму кругу асоб.

АППРОКСИМАЦИЯ ФУНКЦИЙ, апраксімацыя функцый - прыблізнае выражэнне адных функцый другімі. Задача А.ф. узнікае напр., пры замене складаных функцый прастымі, калі неабходна вылічыць значэнне функцый. Матэматычная статыстыка выкарыстоўвае А.ф. для ацэнкі блізасці эмпірычных размеркаванняў да тэарэтычных і ў др. задачах.

АССИМЕТРИЯ РАСПРЕДЕЛЕНИЯ, асіметрыя размеркавання - размеркаванне, у якім частоты не сіметрычны адносна найбольшай частаты. Различаюць левабаковую і правабаковую асіметрыю /скошанасць/.

БАЗА СРАВНЕНИЯ, база параўнання - канкрэтны перыяд часу /месяц, год і г.д./, канкрэтная тэрыторыя, статыстычная сукупнасць і г.д., да якіх адносіцца паказчык, велічыня якога прынята ў якасці базіснага ліку пры параўнанні паміж сабой дзьвух статыстычных паказчыкаў і вылічэння адносных велічынь, тэмпаў развіцця і індэксаў.

БАЛАНСОВЫЙ МЕТОД /в статистике/, балансавы метад /у статыстыцы/ - метад апрацоўкі і аналіза статыстычных данных, які выкарыстоўвае роўнасць цэлага адпаведнай суме частак ці роўнасць прыращэння адпаведнай рознасці "прыхода" і "расхода". Найбольш распаўсюджаная форма Б.м. - супастаўленне рэсурсаў матэрыяльных даброт /ці рабочай сілы/ з іх размеркаваннем. Прыкладам могуць служыць балансы вытворчасці і спажывання асобных прадуктаў, напр., электрабаланс народнай гаспадаркі.

Статыстычны баланс грунтоўна адрозніваецца ад значна больш вузкага паняцця баланса ў бухгалтарскім уліку, для якога уласціва спецыфічнае супастаўленне выкарыстоўвання сродкаў асобнага прадпрыемства /аб'яднання/ з крыніцамі і цэлевым назначэннем тэтых сродкаў. У адрозненне ад бухгалтэрыі статыстыка выкарыстоўвае шырокую і разнастайную сістэму паказчыкаў у самых разнастайных галінах грамадскіх з'яў.



ВАЛОВАЯ ПРОДУКЦИЯ ОТРАСЛИ НАРОДНОГО ХОЗЯЙСТВА, валавая прадукцыя галіны народнай гаспадаркі - статыстычны паказчык, які характарызуе аб'ем прадукцыі, выраблены у асобнай галіне матэрыяльнай вытворчасці. Разлічваецца па т.н. завадскому метаду /аб'ем валавой прадукцыі галіны народнай гаспадаркі у гэтым выпадку характарызуе сумарную выпрацоўку прадукцыі усімі прадпрыемствамі данай галіны/ и па т.н. галіноваму метаду / аб'ем валавой прадукцыі галіны народнай гаспадаркі у гэтым выпадку характарызуе аб'ем канечнай прадукцыи данай галіны/.

ВАЛОВОЙ НАЦИОНАЛЬНЫЙ ПРОДУКТ, валовы нацыянальны прадукт - в вылічаны па метадалогіі ААН - адлюстроўвае канечныя результаты дзейнасці у цэлым па народнай гаспадарцы. У адрозненне ад нацыянальнага дахода валавы нацыянальны прадукт уключае акрамя чыстай прадукцыі галін матэрыяльнай вытворчасці, амартызацыю асноўных вытворчых і невытворчых фондаў / дзяржаўных, кааператыўных і асабістых/, даходы, атрыманыя у невытворчай сферы і ад знешнеэканамічнай дзейнасці.

ВАЛОВОЙ ОБЩЕСТВЕННЫЙ ПРОДУКТ, валавы грамадскі прадукт - сукупны грамадскі прадукт - сума матэрыяльных даброт, выпрацаваных у народнай гаспадарцы за акрэслены перыяд /звычайна за год/. Па матэрыяльна - рэчавай форме В.г.п. складаецца з сродкаў вытворчасці і прадметаў спажывання. Па вартасці В.Г.п. распадаецца на вартасць спажываемых у працэсе вытворчасці сродкаў вытворчасці / перанесеная вартасць/ і зноў створаную вартасць /нацыянальны даход/. В.г.п. разлічваецца у савецкай статыстыцы як сума валавой прадукцыі усіх галін вытворчай сферы народнай гаспадаркі. Ен ацэньваецца у цякучых і нязменных цэнах.

ВАЛОВОЙ ПРОИЗВОДСТВЕННЫЙ ОБОРОТ, валавы вытворчы абарот, валавы абарот - сумарная вартасць усіх відаў прадукцыі, незалежна ад таго, адпушчаны яны на бок /за мяжу прадпрыемства/ ці выкарыстаны на вытворчыя патрэбы таго-ж прадпрыемства. У некатарых галінах прамысловасці /напр., сахарная/, а таксама у сельскай гаспадарцы валавая прадукцыя вызначаецца па метаду В.в.а.

ВАРИАНТА, варыянта - асобнае значэнне, якое мае статыстычная велічыня у працэсе варыяцыі. В. адлюстроўваецца дыскрэтным лікам або інтэрвалам. Напр., колькасць членаў сям'і 2,3,4,5 і г.д.,

альбо колькасць рабочых на прадпрыемствах: 5I-I00, I0I-200, 20I-300 і г.д.

ВАРИАЦИОННАЯ СТАТИСТИКА, варыяцыйная статыстыка - раздзел матэматычнай статыстыкі, вывучаючай размеркаванне колькасных прызнакаў у статыстычных сукупнасцях. В.с. разглядае таксама пытанні т.н. тэарэтычных размеркаванняў, вымярэння сувязі паміж вар'іруючымі прыкметамі, колькасныя крытэрыі ацэнкі дакладнасці атрыманых паказчыкаў.

ВАРИАЦИЯ, варыяцыя - змяненне /калыханне/ велічыні прыкметы пры пераходзе ад аднаго аб'екта/групы аб'ектаў/ да другога. В. выражаецца абсалютнымі і абагульняючымі велічынямі: сярэднімі, каэффіцыентамі. Формай адлюстравання В. з'яўляецца рад размеркавання.

ВАРИАЦИЯ ОСТАТОЧНАЯ,-варыяцыя астатковая / рэшткавая/ - варыяцыя велічыні прыкметы, абумоўленая фактарамі, не ляжачымі у аснове групоўкі.

ВЕДОМСТВЕННАЯ СТАТИСТИКА В СССР, ведамасная статыстыка ў СССР - улікова-статыстычныя работы, якія вядуцца у міністэрствах, ведамствах і арганізацыях. В.с. выконвае работы, звязаныя з атрыманнем і аналізам справаздачных даных, неабходных для планавага і апаратунага кіраўніцтва дзейнасцю міністэрстваў і ведамстваў.

ВЕРОЯТНОСТЬ, імавернасць - мера аб'ектыўнай магчымасці выпадковай з'явы. Вызначаецца заусёды пры некаторых умовах дадзенага "вопыта" /"выпрабавання"/.

ВЕРОЯТНОСТЬ ДОВЕРИТЕЛЬНАЯ, імавернасць даверная - імавернасць, прызнаваемая дастатковай для меркавання аб верагоднасці характарыстык, атрыманых на аснове выбарачных назіранняў. В.д. дае магчымасць устанавіць даверныя граніцы выпадковага хістання вывучаемай з'явы.

ВЕСЫ/в статистике/, вагі/ў статыстыцы/ - паказчыкі, характарызуючыя важкасць /значнасць/ данага элемента ці варыянты у агульнай іх сукупнасці, прымаюцца у разлік пры вылічэнні сярэдняй /гл./, індэкса /гл./ і некаторых другіх велічынь.



ВЕСА АБСОЛЮТНЫЕ, вагі абсалютныя - вагі /гл./, выражаныя у абсалютных велічынях. У варыяцыйным раду - гэта частоты, г.зн. колькасці адзнак варыяцыйнага рада, валодаючых пэўным значэннем вар'іруючай прыкметы.

ВЕСА ИНДЕКСА, вагі індэкса - гл. у артыкуле Індэкс.

ВЕСА ИНДЕКСОВ ПЕРЕМЕННЫЕ, вагі індэксаў пераменныя - вагі індэкса, змяняючыяся ад індэкса да індэкса пры іх вылічэнні за некалькі перыядаў.

ВЕСА ИНДЕКСОВ ПОСТОЯННЫЕ, вагі індэксаў пастаянныя - вагі індэкса /гл./, якія застаюцца нязменнымі на узроўні аднаго перыяда пры вылічэнні індэксаў за некалькі перыядаў.

ВЕСА ОТНОСИТЕЛЬНЫЕ, вагі адносныя - вагі /гл./, выражаныя у долях /гл./ ці працэнтах. Вагі абсалютныя /гл./ можна выразіць адноснымі лікамі, прыняў суму ваг за I00 /тады вагі будуць выражаны у працэнтах/ або за адзінку.

"ВЕСТНИК СТАТИСТИКИ" - часопіс, орган Дзяржкамстата СССР, з 1957г. выдаецца штомесячна. У часопісе публікуюцца артыкулы па сацыяльна-эканамічнаму аналізу, тэорыі і практыцы статыстыкі, гісторыі статыстыкі, аутаматызацыі улікова-вылічальных работ, статыстычныя матэрыялы па эканоміцы і культуры СССР і сацыялістычных краін.

ВЗАИМОСВЯЗЬ ИНДЕКСОВ, узаемасувязь індэксаў - існуе два віды узаемасувязі: I/ паміж індэксамі ланцунговымі /гл./ і індэксамі базіснымі/гл./; 2/ паміж індэксамі узаемазвязаных паказчыкаў.

ВЗВЕШИВАНИЕ, узважванне /у статыстыцы/ - тэхнічны прыем пры разліку абагульняючых статыстычных паказчыкаў, напр., сярэдніх /гл./, індэксаў з асобных найбольш прыватных паказчыкаў /элементаў/. У. дае магчымасць атрымаць агульны паказчык з улікам удзельнай вагі асобных элементаў у агульнай іх сукупнасці.

ВИДЫ СРЕДНИХ, віды сярэдніх - адрозніваюцца па віду формул, якія выкарыстоўваюцца пры разліку сярэдніх велічынь. У статыстыцы знаходзяць прымяненне: сярэдняя арыфметычная, сярэдняя квадратычная, сярэдняя гарманічная, сярэдняя геаметрычная. Выбор ві-

да сярэдняй залежыць ад характара асярадняемай прыкметы і маючыхся данных.

ВИДЫ СТАТИСТИЧЕСКОГО НАБЛЮДЕНИЯ, віды статыстычнага назірання - прыёмы арганізацыі збору статыстычных звестак. Статыстычнае назіранне падраздзяляецца на дзве асноўныя формы: статыстычная справаздачнасць і спецыяльна арганізуемыя стат. абследаванні і перапісы. Назіранне падраздзяляецца таксама на суцэльнае и несуцэльнае.

ВРЕМЯ НАБЛЮДЕНИЯ, час назірання - час, да якога адносяцца рэгістраваныя у працэссе статыстычнага назірання факты. У залежнасці ад вывучаемага аб'екта і вызначаемага паказчыка звесткі могуць збірацца альбо за вызначаны прамежак часу, альбо па знаходжанню на якую-небудзь дату.

ВРЕМЯ РЕГИСТРАЦИИ, час рэгістрацыі - час, на працягу якога праводзіцца рэгістрацыя /збор/ статыстычных звестак.

ВЫБОР ПРИЗНАКОВ, выбар прыкмет - выдучэнне якасных ці колькасных прыкмет для статыстычнага вывучэння.

ВЫБОРКА, выбарка - скарочаная назва выбарачнага назірання.

ВЫБОРКА БЕЗВОЗВРАТНАЯ, ВЫБОРКА БЕСПОВТОРНАЯ, выбарка незваротная, выбарка безпаўторная - выбарка, пры якой аднойчы адабраная адзінка выключаецца з далейшага адбору і пагэтаму не можа быць адабрана паўторна.

ВЫБОРКА БЕСПОВТОРНАЯ, выбарка безпаўторная - гл. ВЫБОРКА БЕЗВОЗВРАТНАЯ, выбарка незваротная.

ВЫБОРКА ГНЕЗДОВАЯ, выбарка гняздавая - гл. ВЫБОРКА СЕРИЙНАЯ, выбарка серыйная.

ВЫБОРКА КОНТРОЛЬНАЯ, выбарка кантрольная - выбарачнае статыстычнае назіранне, якое праводзіцца для праверкі правільнасці вынікаў суцэльнага назірання.

ВЫБОРКА МЕХАНИЧЕСКАЯ, выбарка механічная - заснавана на механічным адборы.Пры В.м. адзінкі сукупнасці спачатку размяшчаюць у вызначаным парадку /па алфавіту, па геаграфічнаму прынцыпу, у парадку убывання ці ўзрастання значэнняў якога-небудзь паказчыка/, а затым механічна адбіраюць адзінкі праз які-небудзь інтэрвал, напр., 5-ю, 10-ю, 15-ю і г.д. адзінкі.



ВЫБОРКА МАЛАЯ, выбарка малая - выбарка з генеральнай сукупнасці з малой колькасцю назіранняў /$n < 25$ /.

ВЫБОРКА ПОВТОРНАЯ, ВЫБОРКА ВОЗВРАТНАЯ, выбарка паўторная - выбарка, пры якой адабраная адзінка не выключаецца з адбору і можа быць адабрана паўторна. В.п. дае менш дакладныя вынікі, чым выбарка незваротная.

ВЫБОРКА РЕПРЕЗЕНТАТИВНАЯ, выбарка рэпрэзентацыйная - выбарка, маючая задавальняючую рэпрэзентацыйнасць, г.зн. нязначныя размеры адхілення характарыстык выбарачнай сукупнасці ад характарыстык генеральнай сукупнасці.

ВЫБОРКА СЕРИЙНАЯ, ВЫБАРКА ГНЕЗДОВАЯ, ВЫБАРКА СЕРЫЙНАЯ, - выбарка гнездавая - заснавана на такім спосабе адбору, пры якім выбарачная сукупнасць утвараецца шляхам адбору зразу цэлых серый, а не асобных адзінак генеральнай сукупнасці. У адабраных серыях абследуюцца усе без выключэння адзінкі сукупнасці.

ВЫБОРКА СЛУЧАЙНАЯ, выбарка выпадковая, выбарка ўласна-выпадковая - заснавана на выпадковым адборы адзінак для выбарачнага назірання з усей генеральнай сукупнасці ў цэлым. В.в. звычайна праводзіцца шляхам "жараб'ёукі" ці пры дапамозе табліц выпадковых лічбаў.

ВЫБОРКА СОБСТВЕННО-СЛУЧАЙНАЯ - см. ВЫБОРКА СЛУЧАЙНАЯ, выбарка уласна-выпадковая - гл. выбарка выпадковая.

ВЫБОРКА ТИПОЛОГИЧЕСКАЯ, ВЫБОРКА ТИПИЧЕСКАЯ, ВЫБОРКА РАЙОНИРОВАННАЯ, выбарка тыпалагічная, выбарка тыповая, выбарка райанаваная заснавана на адборы адзінак не з усей генеральнай сукупнасці ў цэлым, а з яе тыповых груп.

ВЫБОРОЧНАЯ ДИСПЕРСИЯ, выбарачная дысперсія - мера варыяцыі прыкметы ў выбарачнай сукупнасці.

ВЫБОРОЧНОЕ НАБЛЮДЕНИЕ, выбарачнае назіранне - адзін з віду несуцэльнага назірання. Выбарачнае назіранне заснавана на прымяненні выбарачнага метада.

ВЫБОРОЧНЫЕ ХАРАКТЕРИСТИКИ, выбарачныя характарыстыкі – вытворчыя паказчыкі выбарачнай сукупнасці. У іх склад уваходзяць: выбарачная сярэдняя, выбарачная доля, выбарачная дысперсія.

ВЫБОРОЧНЫЙ МЕТОД, выбарачны метад – метад статыстычнага даследавання, з дапамогай якога устанаўліваюцца адзнакі паказчыкаў генеральнай сукупнасці на аснове абследавання толькі некаторай яе часткі.

ВЫРАВНИВАНИЕ, выраўноўванне – прывядзенне ў адпаведнасць з данымі, атрыманымі непасрэдна з назірання, рада лікаў, падпарадкоўваючыхся вызначанаму закону.

ГЕНЕРАЛЬНАЯ ДИСПЕРСИЯ – генеральная дысперсія – мера варыяцыі прыкметы ў генеральнай сукупнасці.

ГИСТОГРАММА РАСПРЕДЕЛЕНИЯ, гістаграмма размеркавання – адна з форм графічнага адлюстравання варыяцыйнага рада.

ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ СССР ПО СТАТИСТИКЕ /Госкомстат СССР/, Дзяржаўны камітэт СССР па статыстыцы /Дзяржкамстат СССР/ – саюзна-рэспубліканскі орган, ажыццяўляючый цэнтралізаванае кіраўніцтва улікам і статыстыкай у СССР.

ГРАФИЧЕСКОЕ ИЗОБРАЖЕНИЕ СТАТИСТИЧЕСКИХ ВЕЛИЧИН, графічнае адлюстраванне статыстычных велічынь ажыццяўляецца пры дапамозе графічных /геаметрычных/ вобразаў – кропак, ліній, плоскасцей, фігур, іх спалучэнняў і рознага размяшчэння.

ГРУППИРОВКА АНАЛИТИЧЕСКАЯ , групоўка аналітычная – вызначае ўзаемасувязі паміж двума ці больш прыкметамі.

ГРУППИРОВКА ВТОРИЧНАЯ, групоўка другаразовая – перагрупоўка раней згрупаванага статыстычнага матэрыяла.

ГРУППИРОВКА КОМБИНИРОВАННАЯ, групоўка камбінаваная – расчляненне сукупнасці адзінак на групы па двум ці больш прыкметам, узятым у камбінацыі. Пры Г.к. групы, ўтвораныя па адной прыкмеце, падраздзяляюцца на падгрупы па другой прыкмеце, а атрыманая такім чынам падгрупы падраздзяляюцца /кожная у асобнасці/ яшчэ на падгрупы, і г.д.

ГРУППИРОВКА ПРОСТАЯ, групоўка простая – расчляненне сукупнасці адзінак на групы па адной якой-небудзь прыкмеце. Г.п. служыць для вывучэння структуры сукупнасці альбо ўзаемасувязі паміж прыкметамі.



ГРУППИРОВКА СТРУКТУРНАЯ , групоўка структурная – групоўка, выяўляючая састаў /структуру/ вывучаемай сукупнасці з'яў.

ГРУППИРОВКА ТИПОЛОГИЧЕСКАЯ, групоўка тыпалагічная – статыстычная групоўка, з дапамогай якой выяўляюцца асноўныя тыпы у вывучаемай сукупнасці з'яў. Асноўная мэта Г.т. – адмежаванне аднаго тыпа з'яў ад другога статыстычнымі сродкамі.

ГРУППИРОВКИ , групоўкі – адзін з асноўных метадаў статыстычнага даследавання, які заключаецца ў расчляненні сукупнасці на групы па вызначаным грунтоўным прыкметам.

ДИНАМИКА/ в статистике/ , дынаміка /у статыстыцы/ – змяненне паказчыкаў развіцця грамадска – эканамічных з'яў у часе.

ДИСПЕРСИОННЫЙ АНАЛИЗ, дысперсійны аналіз – метад даследвання залежнасці паміж з'явамі пры невялікім ліку назіранняў, заключаючыйся ў параўнанні дысперсій па фактарам і дысперсіі астатковай /рэшткавай/ з агульнай дысперсіяй.

ДИСПЕРСИЯ, дысперсія – сярэдні квадрат адхіленняў усіх значэнняў прыкметы рада размеркавання ад сярэдняй арыфметычнай.

ДИСПЕРСИЯ ВНУТРИГРУППОВАЯ, дысперсія унутрыгрупавая – паказчык, выражаючый сярэднюю меру рассейвання прыкметы у асобных групах сукупнасці.

ДИСПЕРСИЯ МЕЖГРУППОВАЯ, дысперсія міжгрупавая – паказчык, выражаючы меру рассейвання групавых сярэдніх ад агульнай сярэдняй.

ДИСПЕРСИЯ ОБЩАЯ, дысперсія агульная – паказчык рассейвання прыкметы. Д.а. разглядваецца як сума дысперсіі міжгрупавой і дысперсіі унутрыгрупавой.

ДИСПЕРСИЯ ОСТАТОЧНАЯ, дысперсія астатковая /рэшткавая/ – змяненне астатковай /рэшткавай/ варыяцыі. Прадстаўляе сабой сярэднюю з унутрыгрупавых дысперсій, вылічаемую з улікам колькасці ступеней свабоды.

ДОВЕРИТЕЛЬНЫЕ ГРАНИЦЫ, даверныя граніцы – граніцы, выхад за межы якіх данай характарыстыкі з прычыны выпадковых хістан-

няу /ваганняу/ мае нязначную імавернасць.

ДОЛЯ, доля – адноснае значэнне часткі з'явы у агульнай яго сукупнасці.

ДОХОДЫ НАСЕЛЕНИЯ КОНЕЧНЫЕ, даходы насельніцтва канечныя – частка нацыянальнага дахода, атрымліваемая насельніцтвам у выніку яго канечнага размеркавання.

ДОХОДЫ НАСЕЛЕНИЯ РЕАЛЬНЫЕ, даходы насельніцтва рэальныя – велічыня матэрыяльных, культурна-бытавых і сацыяльных даброт, набываемых насельніцтвам за свеі канечныя даходы.

ДОХОДЫ ПЕРВИЧНЫЕ, даходы пярвічныя – даходы , утвараючыяся у сферы матэрыяльнай вытворчасці у працэсе стварэння грамадскага прадукта і нацыянальнага дахода.

ЕДИНИЦА НАБЛЮДЕНИЯ, адзінка назірання – састауны элемент аб'екта статыстычнага назірання, які з'яуляецца носьбітам прыкмет, падлягаючых рэгістрацыі, і асновай вядучагася пры абследаванні ліку.

ЕЖЕГОДНИК СТАТИСТИЧЕСКИЙ – штогоднік статыстычны – афіцыйная публікацыя статыстычных даных аб развіцці народнай гаспадаркі за справаздачны год.

ЗАГОЛОВКИ/в статистических таблицах/, загаловак /у статыстычных табліцах/ – назва, раскрываючая змест табліцы.

ЗАКОН БОЛЬШИХ ЧИСЕЛ, закон вялікіх лічбау – форма сувязі паміж колькасцю даследуемых з'яу і паунатой праяулення агульнай заканамернасці, уласцівай гэтым з'явам.

ЗАКОН НОРМАЛЬНОГО РАСПРЕДЕЛЕНИЯ, закон нармальнага размеркавання – закон размеркавання імавернасцей, характэрны для многіх выпадковых велічынь, і выражаемы формулай шчыльнасці імавернасці.

ЗАКОН РАСПРЕДЕЛЕНИЯ, закон размеркавання – рад імавернасцей магчымых значэнняу выпадковай велічыні.

ЗАКОН СРЕДНЕЙ – закон сярэдняй – гл. Закон вялікіх лічбау.

ЗАТРАТЫ ПОЛНЫЕ, затраты поуныя адных прадуктау на вытворчасць другіх вылічаюцца на основе міжгаліновага баланса.



ЗЕМСКАЯ СТАТИСТИКА, земская статыстыка – статыстычныя даследаванні эканомікі і другіх сфер грамадскага жыцця, якія праводзіліся у губернскіх земствах з пачатку 70-х гадоу 19 ст. да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

ИЗМЕРЕНИЕ СВЯЗИ, вымярэнне сувязі – сукупнасць прыемау і метадау вымярэння і колькаснай ацэнкі узаемасувязі /залежнасці/ паміж з'явамі і іх адзнакамі. У статыстыцы вядомы такія метады вывучэння сувязей як паралельныя рады, аналітычныя групоукі, дысперсіуны, карэляцыйна-рэгрэсійны метады і інш.

ИНДЕКС, індэкс – адносны паказчык, які характэрызуе вымярэнне складанай з'явы з цягам часу або суадносіны у прасторы.

ИНДЕКС АГРЕГАТНЫЙ, індэкс агрэгатны – форма агульнага індэкса, які прызначаецца для характарыстыкі змянення складанай з'явы, у якой лічнік і назоунік прадстаулены сумай здабытка значэнняу індэксіруемай адзнакі на нязменныя велічыні – вагі.

ИНДЕКС СРЕДНЕАРИФМЕТИЧЕСКИЙ, індэкс сярэднеарыфметычны – форма агульнага індэкса, выражанага сярэдняй арыфметычнай узважанай.

ИНДЕКС ГАРМОНИЧЕСКИЙ, індэкс гарманічны – форма агульнага індэкса, выражанага сярэдняй гарманічнай велічыняй з індывідуальных індэксау.

ИНДЕКС ИНДИВИДУАЛЬНЫЙ, індэкс індывідуальны – адносны паказчык, які выражае змяненне асобнага элемента складанай з'явы.

ИНДЕКС ОБЩИЙ, індэкс агульны – паказчык дынамікі, які характэрызуе змяненне усей сукупнасці элементау вывучаемай з'явы. Выкарыстоуваецца як сінонім зводнага індэкса.

ИНДЕКС ПЕРЕМЕННОГО СОСТАВА, індэкс пераменнага саставу – паказчык, які характэрызуе змяненне на працягу часу або у прасторы дзьвух сярэдніх узроуняу вывучаемай з'явы.

ИНДЕКС ПОКУПАТЕЛЬНОЙ СПОСОБНОСТИ, індэкс пакупной здольнасці – мае дзве разнавіднасці. У-першых, як індэкс пакупной здольнасці насельніцтва, і у-другіх, як індэкс пакупной здольнасці рубля. І.п.з.н. – адносны паказчык, які характарызуе змяненне таварнай

масы і паслуг, якія могуць быць куплены насельніцтвам у вывучаемых пярыядах у параўнальных цэнах. І.п.з.р. - характарызуе змяненне масы матэрыяльных выгад і паслуг, якія могуць быць куплены на адну і тую ж колькасць грошаў / звычайна адзін рубель/.

ИНДЕКС ПОСТОЯННОГО /ФИКСИРОВАННОГО/ СОСТАВА, індэкс пастаяннага /фіксіраванага/ саставу - паказчык дынамікі сярэдняга узроўню якаснага паказчыка, вылічанага па фіксаванай /пастаяннай/ структуры ватаў.

ИНДЕКС РЕАЛЬНЫХ ДОХОДОВ, індэкс рэальных даходаў - адносіна канечных даходаў /у тым ліку на аднаго супрацоўніка або на душу насельніцтва/, пералічаных па цэнах на тавары і паслугі базіснага пярыяду, да канечных даходаў базіснага пярыяду.

ИНДЕКС ФИЗИЧЕСКОГО ОБЪЕМА, індэкс фізічнага аб'ему - характарызуе змяненне масы тавараў /матэрыяльных выгад/ у справаздачным пярыядзе у параўнанні з базісным пярыядам.

ИНДЕКС ЦЕН, індэкс цэн - характарызуе змяненне цэн тавараў у цягу часу або іх параўнанне у прасторы.

ИНДЕКСНЫЙ МЕТОД В СТАТИСТИКЕ, індэксны метад у статыстыцы - метад, які прымяняецца для вымярэння дынамікі, ацэнкі выканання плана і аналіза складаных грамадска-эканамічных з'яў, якія складаюцца з непасрэдна непараўнальных элементаў.

ИНДЕКСЫ БАЗИСНЫЕ, індэксы базісныя - рад індэксных паказчыкаў, вылічаных у адносінах да адной і той жа велічыні, якая прымаецца за базу параўнання.

ИНДЕКСЫ ЦЕПНЫЕ, індэксы ланцуговыя - рад індэксных лічбаў, вылічаных у прымяненні да пераменнай базы параўнання. Пры вылічэнні і.л. справаздачны узровень параўноўваецца з папярэднім узроўнем.

ИНТЕРВАЛ, інтэрвал - прамежак паміж верхнім і ніжнім значэннямі груповачнай адзнакі, аб'яднаных у адну групу.

ИНТЕРПОЛЯЦИЯ, інтэрпаляцыя - метад устанаўлення адсутнічаючых значэнняў функцыі на аснове прамежных значэнняў аргумента.

КВАРТИЛЬ, кварціль - размер адзнакі, якая ядсякае I/4 частку усіх значэнняў рада размеркавання, які складаецца з чатырох



кварціляў.

КЛАССИФИКАЦИЯ, класіфікацыя - такі спосаб размеркавання складанай сукупнасці з'яў або аб'ектаў на аднародныя групы, які прымаецца як агульнаўстаноўлены стандарт, зацвярджаецца статыстычнымі органамі або рэкамяндуецца міжнароднымі статыстычнымі арганізацыямі.

КОВАРАЦИЯ, каварыяцыя - сумесная варыяцыя /змяненне/ дзьвух пераменных. Вылічаецца як сярэдні здабытак адхіленняў дзьвух пераменных ад сваіх сярэдніх велічынь каварыяцыя выкарыстоўваецца пры вылічэнні каэфіцыента карэляцыі.

КОРРЕЛЯЦИОННАЯ ЗАВИСИМОСТЬ, карэляцыйная залежнасць - такая форма узаемасувязі паміж адзнакамі, пры якой змяненне незалежнай велічыні прыводзіць да сярэдняга павелічэння /памяншэння/ залежной велічыні /функцыі/.

КОРРЕЛЯЦИОННОЕ ОТНОШЕНИЕ, карэляцыйная адносіна - паказчык цеснаты сувязі крывалінейнай залежнасці.

КОРРЕЛЯЦИЯ МНОЖЕСТВЕННАЯ, карэляцыя множная - узаемасувязь паміж залежнай пераменнай і некалькімі /не меньш дзьвух/ фактарнымі адзнакамі.

КОРРЕЛЯЦИЯ РАНГОВ, карэляцыя рангаў - адзін з паказчыкаў цеснаты сувязі. Вымяраецца каэфіцыентам к.р. Спірмэна.

КОЭФФИЦИЕНТ ВАРИАЦИИ, каэфіцыент варыяцыі - адносная мера зменлівасці. Вылічаецца як адносіна сярэдняга квадратычнага /стандартаванага/ адхілення да сярэдняй велічыні вывучаемай адзнакі / паказчыка/.

КОЭФФИЦИЕНТ ВЗАИМНОЙ СОПРЯЖЕННОСТИ, каэфіцыент узаемнай звязнасці /спалучанасці/ - мера цеснаты сувязі паміж якаснымі адзнакамі.

КОЭФФИЦИЕНТ КОРРЕЛЯЦИИ, каэфіцыент карэляцыі - паказчык цеснаты сувязі паміж колькаснымі адзнакамі. К.к. знаходзіцца у граніцах ад -I до +I. Найбольшае па абсалютнай велічыні значэнне к.к. адпавядае больш цеснай сувязі.

КОЭФФИЦИЕНТ РЕГРЕССИИ, каэфіцыент рэгрэсіі - характарыстыка лінейнага ураўнення сувязі пры незалежнай пераменнай, якая

паказвае, на колькі адзнак павялічыцца залежная велічыня пры узросце аргумента на адну адзінку. К.р. знаходзіцца па метаду наіменшых квадратаў.

КОЭФФИЦИЕНТ ЭЛАСТИЧНАСТИ, каэфіцыент эласцічнасці - характарыстыка адноснага /у працэнтах/ павялічэння /                / залежнай пераменнай, выкліканая змяненнем аргумента на адзін працэнт.

КУМУЛЯТА, кумулята - форма графічнага прадстаўлення варыяцыйнага рада, пры якой на гарызантальнай восі адкладаюцца памеры адзнакі, а на вертыкальнай - нарастаючыя вынікі частот.

ЛИНИЯ РЕГРЕССИИ, лінія рэгрэсіі - графічнае прадстаўленне сувязі паміж адзнакамі. Эмпірычную л.р. атрымліваюць з дапамогай паслядоўнага аб'яднання кропак перасячэння сярэдніх "х" і "у". Тэарэтычная л.р. атрымліваецца па метаду наіменшых квадратаў.

МЕТОДЫ СТАТИСТИКИ, метады статыстыкі - сукупнасць прыемаў, якія прымяняюцца у працэсе статыстычнага даследавання. Да іх адносяцца: статыстычнае назіранне, зводка і групоўка статыстычных данных, метад сярэдніх велічынь, індэксны метад, метад выбаркі, метады вывучэння радоў дынамікі, дысперсны аналіз, карэляцыйна-рэгрэсіўны метады і інш.

МОМЕНТ ВТОРОГО ПОРЯДКА, момант другога парадку - сярэдні квадрат адхіленняў індывідуальных значэнняў адзнакі /х/ ад велічыні А. Калі А = х, момант другога парадку есць дысперсія.

МОМЕНТ ПЕРВОГО ПОРЯДКА, момант першага парадку - сярэдні размер адхілення адзнакі ад велічыні А. Пры А = 0 м.п.п. равен сярэдняй велічыні.

НАБЛЮДЕНИЕ СТАТИСТИЧЕСКОЕ, назіранне статыстычнае - планамерны, навукова-арганізаваны збор даных аб масавых грамадска-эканамічных з'явах і працэсах. Для правядзення н.с. састаўляецца план, які складаецца з навукова-метадычнай і арганізацыйнай частак.

ОРГАНИЗАЦИОННЫЙ ПЛАН СТАТИСТИЧЕСКОГО НАБЛЮДЕНИЯ, арганізацыйны план статыстычнага назірання - састаўная частка плана с.н., у якой устанаўліваецца мэта ізадачы с.н., спосабы і формы



яго правядзення: суцэльнае, несуцэльнае, непасрэдные н., вусны допыт, самарэгістрацыя, экспедыцыйны і карэспандэнскі спосабы.

ОТКЛОНЕНИЕ СРЕДНЕЕ КВАДРАТИЧЕСКОЕ, адхіленне сярэднеквадратычнае - мера варыяцыі адзнакі, атрыманная шляхам здабытка кораня квадратычнага з дысперсіі.

ОТКЛОНЕНИЕ СРЕДНЕЕ ЛИНЕЙНОЕ, адхіленне сярэдние лінэйнае - адна з мер варыяцыі радоў размеркавання, вылічаная як сярэдняя арыфмятычная з адхіленняў асобных значэнняў адзнакі ад сваей сярэдняй, узятых па абсалютнай велічыні.

ОТНОСИТЕЛЬНЫЕ ВЕЛИЧИНЫ, адносныя велічыні - мера суадносін двух паказчыкаў, А.в. падлічваюцца як дзель адной велічыні на другую, якая з'яуляецца базай сагастаўлення. У статыстыцы вядомы цэлы шэраг а.в. Важнейшыя з іх наступныя: а.в. выканання плана, а.в. дынамікі /ланцуговыя і базісныя/, а.в. структуры і каардынацыі, параўнання у прасторы і інтэнсіўнасці.

ОШИБКА ВЫБОРКИ, памылка выбаркі - адхіленне значэнняў параметра /сярэдняй, долі/, атрыманных па выніках выбарачнага абследавання ад адпаведных генеральных характарыстык -генеральнай сярэдняй, генеральнай долі.

ОШИБКА РЕПРЕЗЕНТАТИВНОСТИ, памылка рэпрэзентатыўнасці - разыходжанне паміж харастарыстыкамі выбарачнай і генеральнай сукупнасці, выклікаңае тым, што выбарачная сукупнасць, будучы часткай генеральнай, не можа дакладна перадаць генеральную сукупнасць.

ОШИБКА СИСТЕМАТИЧЕСКАЯ, памылка сістэматычная - адхіленне ад сапраўднага значэння паказчыка у адзін бок з мэтай наумыснага або ненаумыснага скажэння ісціны.

ПОКАЗАТЕЛЬ, паказчык - статыстычная катэгорыя, якая выкарыстоўваецца для характарыстыкі размераў і суадносін грамадска-эканамічных з'яў.

ПОЛИГОН РАСПРЕДЕЛЕНИЯ, палігон размеркавання - адна з форм графічнага прадстаулення варыяцыйнага рада размеркавання. Пры пабудове п.р. па восі абсцыс адкладваюць значэнні адзнакі, а па восі ардынат - частоты. Аб'еднанне кропак іх перасячэння дае многагранік, які называецца палігонам.

ПРИВЕДЕНИЕ РЯДОВ ДИНАМИКИ К ОДНОМУ ОСНОВАНИЮ, прывядзенне радоў дынамікі да адной асновы - пераўтварэнне параўнальных радоў дынамікі, якія складаюцца з абсалютных велічынь, у рады базісных адносных паказчыкаў дынамікі з адным і тым жа пэрыядам або момантам часу, які прымаецца за базу параўнання.

ПРИЗНАК ГРУППИРОВОЧНЫЙ - адзнака групаваная - адзнака, якая кладзецца ў аснову утварэння груп у працэсе правядзення статыстычнай групоўкі.

ПРИЗНАК ДИСКРЕТНЫЙ /ПРЕРЫВНЫЙ/ , адзнака дыскрэтная /перапынная/ - колькасна выражанная варыяцыйная адзнака, якая прымае цэльналічбавыя значэнні.

ПРИЗНАК НЕПРЕРЫВНЫЙ, адзнака безупынная - колькасная вар'іручая адзнака, якая можа прымаць як цэлыя, так і дробналічбавыя значэнні.

ПРИЗНАК РЕЗУЛЬТАТИВНЫЙ, адзнака рэзультатыўная - адзнака, якая выражае вынік уздзеяння адзнакі-фактара.

ПРИЗНАК-ФАКТОР, адзнака-фактар - ёсць адзнака, пад уплывам якой змяняюцца другія адзнакі /рэзультатыўныя паказчыкі/.

РЯД ВАРИАЦИОННЫЙ, рад варыяцыйны - рад, у якім даецца размеркаванне адзнак вывучаемай сукупнасці па значэннях варыяцыйнай адзнакі. Ён складаецца з варыянтаў /асобных значэнняў адзнакі/ і адпаведных ім частот. Р.в. падраздзяляюцца на дыскрэтныя /перапынныя/ і інтэрвальныя у залежнасці ад тыпу варыяцыйнай адзнакі.

РЯД ДИНАМИКИ, рад дынамікі - рад паслядоўных значэнняў, якія характарызуюць змяненне паказчыка на працягу часу. Р.д. складаецца з узроўняў рада і адзнакі часу /пэрыядаў або момантаў часу/. У залежнасці ад тыпу паказчыкаў часовай паслядоўнасці Р.д. падраздзяляюцца пэрыядычныя /інтэрвальныя/ і момантныя.

РЯД ДИНАМИКИ ПЕРИОДИЧЕСКИЙ, рад дынамікі пэрыядычны - часовая паслядоўнасць паказчыкаў, характарызуючых размеры сацыяльна-эканамічных з'яў за ўстаноўленыя прамежкі часу /месяц, квартал; год/.



РЯД ДИНАМИКИ МОМЕНТНЫЙ, рад дынамікі момантны - рад лічбавых даных, якая характарызуюць размеры, грамадска-эканамічных з'яў у стане на ўстаноўлены момант часу /дату/, напрыклад, на першы дзень месяца, квартала, года.

САМОРЕГИСТРАЦИЯ, самарэгістрацыя - спосаб арганізацыі і правядзення статыстычнага назірання, пры якім даследуемая асоба сама запаўняе допытныя лісты пад кіраўніцтвам спецыяліста-статыстыка.

СВОДКА, зводка - другі этап статыстычнага даследавання, які складаецца з сістэматызацыі і падліку падрахункавых даных, атрыманых у выніку статыстычнага назірання.

СИСТЕМА ПОКАЗАТЕЛЕЙ, сістэма паказчыкаў - сукупнасць узаемазвязаных характарыстык, прызначаных для ўсебаковага адлюстравання грамадска-эканамічных працэсаў у адпаведных умовах месца і часу.

СОВОКУПНОСТЬ ВЫБОРОЧНАЯ, сукупнасць выбарачная - сукупнасць адзінак, адабранных з сукупнасці генеральнай з мэтай выбарачнага даследавання.

СОВОКУПНОСТЬ ГЕНЕРАЛЬНАЯ, сукупнасць генеральная - сукупнасць адзнакі, з якой робіцца адбор некаторай іх часткі для статыстычнага даследавання.

СОВОКУПНОСТЬ СТАТИСТИЧЕСКАЯ, сукупнасць статыстычная - сукупнасць аб'ектаў або з'яў, аб'яднаных агульнай сувяззю, у аснове якой знаходзіцца адзін або некалькі грунтоўных адзнак, якія робяць гэту сукупнасць аднароднай па галоўным адзнакам, але адрозніваюцца паміж сабой пад уплывам прысутнічаючых выпадковых фактараў.

СОПОСТАВИМОСТЬ СТАТИСТИЧЕСКИХ ДАННЫХ, супастаўнасць, супараўнальнасць статыстычных даных - адпаведнасць умоў і метадаў разліку статыстычных паказчыкаў, якія забяспечваюць правільнасць атрыманых пры іх параўнанні вывадаў аб адрозненнях паміж вывучаемымі аб'ектамі і з'явамі.

СПОСОБ МОМЕНТОВ, спосаб момантаў - прыем спрашчэння падліка сярэдняй арыфметычнай і дысперсіі, аснованы на матэматычных уласцівасцях сярэдняй арыфметычнай і дысперсіі.

СПОСОБ НАИМЕНЬШИХ КВАДРАТОВ, спосаб найменьшых квадратаў - спосаб адшукання такой траекторыі функцыі пры умовах, што сума квадратаў адлегласцей усіх яе кропак да эмпірычна назіраемых значэнняў імкнецца да мінімальнай велічыні.

СПОСОБ УСЛОВНОГО НУЛЯ, спосаб умоўнага нуля /гл. спосаб момантаў/.

СРЕДНИЕ ГРУППОВЫЕ, сярэднія групповыя - сярэднія велічыні, якія вылічаюцца па асобным групам складанай сукупнасці адзінак. С.г. выражаюць тыповыя размеры вывучаемай адзнакі ў статыстычна аднародных групах аб'ектаў, якія розняцца паміж сабой неістотнымі адзнакамі.

СРЕДНЯЯ АРИФМЕТИЧЕСКАЯ, сярэдняя арыфметычная - абагульняючая характарыстыка рада варыруючых значэнняў статыстычна аднароднай сукупнасці адзнак. Разлічваецца як дзель сумы асобных значэнняў адзнакі на іх агульны лік /с.а.простая/. С.а.п. разлічваецца па даным неўпарадкаваных радоў.

СРЕДНЯЯ ВЗВЕШЕННАЯ, сярэдняя узвешаная - тып сярэдняй арыфметычнай велічыні, якая устанаўліваецца з улікам вагаў. Вылічаецца як сума здабытка варыянтаў рада размеркавання на іх вагі з наступным яе дзяленнем на суму вагаў. Разлічваецца па згрупаваным даным.

СРЕДНЯЯ ГАРМОНИЧЕСКАЯ, сярэдняя гарманічная - форма сярэдняй, у якой устанаўліваюцца адносіны нумара варыянтаў адзнакі да сумы іх адваротных значэнняў /с.г.простая/. С.г. узважаная разлічваецца па выніках згрупаваных даных пры умовах адсутнічаючых ведаў аб вагах рада размеркавання, але пры I/ вядомых значэннях варыянтаў і 2/ здабытках гэтых варыянтаў на іх вагі. У гэтых умовах с.г. вылічаецца як вынік ад дзялення п. 2/ на п. I/.

СРЕДНЯЯ ГЕНЕРАЛЬНАЯ - сярэдняя генеральная - сярэдняя характарыстыка адзнакі у генеральнай сукупнасці.

СРЕДНЯЯ ГЕОМЕТРИЧЕСКАЯ, сярэдняя геаметрычная - форма сярэдняй, якая атрымліваецца праз здабытак корня $n$-й ступені са здабытка "$n$" асобых значэнняў адзнакі. У статыстыцы шырока прымяняецца пры устанаўленні сярэднегадавых тэмпаў росту.



СРЕДНЯЯ СКОЛЬЗЯЩАЯ, сярэдняя рухомая - сярэдняя узбуйненых перыядаў рада дынамікі, утвораных паслядоўным выключэннем пачатковага члена і яго заменай наступным членам рада. Прымяняецца для выяўлення тэндэнцый развіцця радоў дынамікі.

СРЕДНЯЯ ХРОНОЛОГИЧЕСКАЯ, сярэдняя храналагічная - сярэдні узровень рада дынамікі. Разлічваецца як сярэдняя з сукупнасці значэнняў /узроўняў/ у розныя моманты або перыяды часу. У першым выпадку яна атрымала назву сярэдняй храналагічнай моментнага, а у другім - інтэрвальнага раду дынамікі.

СТАТИСТИКА, статыстыка - тэрмін, які ужываецца для характарыстыкі I/ галіны практычнай дзейнасці і 2/ галіны ведаў, гэта значыць, спецыяльнай навуковай дысцыпліны.

СТЕПЕНЬ СВОБОДЫ, ступень свабоды - колькасць элементаў варыруючай адзнакі, якія могуць прымаць адвольныя значэнні з умовай, каб зададзеныя характарыстыкі, напрыклад, сярэдняя, заставаліся нязменнымі.

ТАБЛИЦА СТАТИСТИЧЕСКАЯ, табліца статыстычная - сістэма наглядната прадстаўлення статыстычных даных. Звычайна складаецца з дзейніка /пералік радкоў/ і выказніка /сістэма слупкоў/, у якіх размяшчаюцца лічбавыя даныя, прызначаныя для колькаснай характарыстыкі дзейніка.

ТЕМП ПРИРОСТА, тэмп прыросту - адносіна абсалютнага прыросту да узроўня, які прымаецца за базу параўнання. У залежнасці ад тыпу базы параўнання /пераменная, пастаянная/ тэмпы прыросту класіфікуюцца на ланцуговыя і базісныя.

ТЕМП РОСТА, тэмп росту - адносіна дасягнутага узроўню рада дынамікі да узроўню, які прымаецца за базу параўнання. Класіфікацыя т.р. на ланцуговыя і базісныя робіцца згодна таго ж правіла, што і тэмпаў прыросту.

ТОЧНОСТЬ СТАТИСТИЧЕСКОГО НАБЛЮДЕНИЯ, дакладнасць статыстычнага назірання - ступень адпаведнасці паказчыкаў, зарэгістраваных у выніку статыстычнага назірання, іх ісцінным значэнням.

УДЕЛЬНЫЙ ВЕС, удзельная вага - адносная велічыня, характарызуючая долю часткі сукупнасці у яе агульным падрахунку.

УДЕЛЬНЫЙ РАСХОД, удзельны расход – норма расхода асобных відаў, сыравіны, матэрыялаў, электраэнергіі і інш. у разліку на адзін выраб.

ФАКТОРНЫЙ АНАЛИЗ, фактарны аналіз – тэрміналогія, якая ужываецца у статыстыцы для а/ спецыяльнага статыстычнага метада, з дапамогай якога назіраемыя пераменныя /паказчыкі/ па вывучаемай сукупнасці з'яў пераутвараецца у некаторы набор фактарау /галоуных і спецыфічных/ з наступнай інтэпрэтацыяй іх зместа; б/ з другога боку ф.а. можа разглядацца як сукупнасць статыстычных метадау /групоукі, індэксы, карэляцыйны і інш./, якія прымяняюцца для вычлянення асобных фактарау, устанаулівающых заканамернасці паводзін або дынаміку складаных з'яу.

ФОРМУЛЯР СТАТИСТИЧЕСКИЙ, фармуляр статыстычны – спецыяльны бланк, у якім даецца пералік пытанняу праграмы статыстычнага назірання.

ЦЕНЗ, цэнз – адзнака, або сістэма характэрных адзнак, якія устанауліваюцца пры правядзенні перапісау і інш. статыстычных работ з мэтай аднясення даследаваных з'яу і аб'ектау да вывучаемай сукупнасці.

ЧАСТОСТЬ, частасць – адносная лічба, выражаная у долях адзінкі або у працэнтах да агульнага выніка і якая паказвае, як часта паутараюцца асобныя значэнні адзнакі /варыянты/ рада размеркавання.

ЧАСТОТА, частата – абсалютная лічба, якая паказвае, колькі разоу данае значэнне адзнакі /варыянт/ пералічваецца у радзе размеркавання.

ЭКСТРАПОЛЯЦИЯ, экстрапаляцыя – спосаб распаусюджання вывадау, атрыманых у выніку выбарачнага назірання на усю сукупнасць, або ацэнкі значэнняу адзнакі на будучыню на аснове статыстычнага вывучэння той, ці іншай з'явы у рэтраспектыве.

Справочное издание

Новиков Михаил Михайлович, Теслюк Иван Ефремович

Короткий русско-белорусский терминологический словарь. Статистика. На белорусском языке.

Даведачное выданне.

КароткI руска-беларускI тэрмIналагIчны слоунIк. Статыстыка.

Адказны за выпуск М.М.НовIкаў.

Карэктар В.С.Чумак

ПадпIсана ў друк 30.III.90

Памер 60 х 84 I/I6 Друк афсетны

Ум.д.а. I,3 Падл. - выд. а I,I Ум. фарб. - адб. I,3

Тыраж 400 экз. Заказ 407

Бясплатна

БеларускI ордэна Працоунага Чырвонага Сцяга дзяржауны Iнстытут народнай гаспадаркI Iм. В.В.Куйбышава

220672, МIнск - 70, пр. ПартызанскI, 26

Надрукована на ратапрынце БДIНГ Iм. В.В.Куйбышава

220672, МIнск- 70, пр. ПартызанскI, 26



